# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№6 (217)
чэрвень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### "Будзьма!" перадае размалёўкі пра каранавірус у дзіцячыя цэнтры і садкі

Кампанія "Будзьма беларусамі!" працягвае сваю гуманітарную місію ў часы пандэміі. Следам за акцыямі "Чытай і здаравей!" і "Дапаможам разам!" мы ажыццявілі яшчэ адну!

Старонка 2

### Названы ўладальнік прэміі за найлепшую беларускую кнігу паэзіі

Стаў вядомы ўладальнік прэміі імя Наталлі Арсенневай за найлепшую беларускамоўную кнігу паэзіі 2019 года. Ён атрымаў 4000 рублёў!

Старонка 3

### Кветкі для Васіля Быкава

У дзень народзінаў Васіля Быкава літаратары і грамадскія дзеячы традыцыйна сабраліся на Усходніх могілках, каб ушанаваць памяць Васіля Быкава.

Старонка 3

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома




## САЛІДАРНАСЦЬ

Двое супернікаў Лукашэнкі на выбарах 2020 года апынуліся за кратамі. Блогера Сяргея Ціханоўскага затрымалі 29 траўня ў Гродне, былога банкіра Віктара Бабарыку – 18 чэрвеня ў Мінску. Увечары 18 і 19 чэрвеня ў падтрымку затрыманых прайшлі масавыя акцыі па ўсёй краіне. "Ланцуг салідарнасці" 19 чэрвеня ўвечары завяршыўся затрыманнямі як удзельнікаў акцыі, так і журналістаў.

Ад гэтага самага часу штовыходныя па ўсім свеце беларусы замежжа ладзілі "Ланцугі салідарнасці" і акцыі ў падтрымку зняволеных. Пратэсты супраць палітычных рэпрэсій у Беларусі ахапілі дзясяткі краінаў, збіраючы ў некаторых гарадах па некалькі сотняў, а то і тысячы (Варшава) ўдзельнікаў.

Як гэта было – глядзіце далей у нумары.

## ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ПАТРАБУЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА

18 чэрвеня адбыўся новы адміністрацыйны працэс над сябрам Рады ЗБС "Бацькаўшчына" і сябрам ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Паўлам Севярынцам. Прысудам грамадскаму дзеячу і пісьменніку стаў новы тэрмін адміністратыўнага пакарання. Сумарна, у выніку некалькіх судовых паседжанняў, Павел Севярынец прыгавораны да 90 сутак у ізалятары часовага ўтрымання.

Працяг на старонцы 2.



навіны

# "БУДЗЬМА!" ПЕРАДАЕ РАЗМАЛЁЎКІ ПРА КАРАНАВІРУС У ДЗІЦЯЧЫЯ ЦЭНТРЫ І САДКІ




Кампанія "Будзьма беларусамі!" працягвае сваю гуманітарную місію ў часы пандэміі. Следам за акцыямі "Чытай і здаравей!" і "Дапаможам разам!" мы ажыццявілі яшчэ адну!

Разам з бараўлянскім цэнтрам "ЭкаЖыццё" мы выдалі казку-размалёўку "Робі і Злюка ў Кароне" ўкраінскай пісьменніцы Галіны Будзілёвай для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту ў перакладзе паэта Андрэя Хадановіча. Гэтая казка проста і даступна распавядае дзеткам пра тое, што такое каранавірус і якіх правілаў бяспекі варта трымацца, каб не захварэць.

2 ліпеня наша кампанія передала 200 размалёвак у дзіцячы анкалагічны цэнтр, а яшчэ раней мы перадалі партыі размалёвак у бараўлянскую SOS-Дзіцячую вёску, у дзіцячыя садкі Заслаўя і Барысава, бібліятэкі вёскі Зачысце і Барысава, а таксама ў школьны летнік і амбулаторыю ў пасёлку Алесіна. Найбліжэйшым часам казкі-размалёўкі адправяцца таксама ва ўстановы Бабруйска, Верхнядзвінска, Віцебска, Гародні, Гомеля, Брэста і Магілёва.

Кожны ахвочы можа спампаваць размалёўку "Робі і Злюка ў Кароне" з нашага сайта тут або атрымаць яе друкаваны варыянт у падарунак абсалютна бясплатна – для гэтага дастаткова набыць у нашай краме любыя тавары катэгорыі "Дзецям" на суму ад 10 рублёў. Спяшайцеся! Колькасць друкаваных асобнікаў абмежаваная.

**budzma.by**






## ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ПАТРАБУЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА

Працяг са старонкі 1.

Падставай для такога неапраўдана суворага пакарання стаў удзел Паўла Севярынца ў дазволеным пікеце па зборы подпісаў на вылучэнне кандыдаткай у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Святланы Ціханоўскай, на якім ён быў затрыманы 7 чэрвеня 2020 года. На наступны дзень ён быў асуджаны на 15 сутак арышту з адбываннем у Ізалятары часовага ўтрымання (ІЧУ) па адрасе 1-шы завулак Акрэсціна, 36а, дзе знаходзіцца дагэтуль.

З паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі, куды звярнуліся грамадзяне, якія адбывалі пакаранне ў ІЧУ ў той самы час, што і Павел Севярынец, вынікала, што за з'яўленнем у ізалятары асуджаных па палітычных матывах грамадзян і Паўла Севярынца ў прыватнасці, вязні гэтай установы пачалі штодзённа сутыкацца з беспрэцэдэнтнымі парушэннямі правоў, псіхалагічным ціскам і катаваннямі, сярод якіх поўная забарона на перадачы са сродкамі асабістай гігіены, пазбаўленне спальнай бялізны і матрацаў, змяншэнне часу знаходжання на свежым паветры, канфіскацыя сродкаў для пісьма і друкаванай прадукцыі, залІванне камер вадой з хлёркай, знявага і ўжыванне абразаў у дачыненні да арыштаваных, ужыванне фізічнага гвалту і пазбаўленне сну.

Паводле інфармацыі праваабарончага цэнтру "Вясна", у часе чарговага судовага пасяджэння, якое адбылася праз Skype ў судзе Фрунзенскага раёна 18 чэрвеня, стала вядома, што Павел Севярынец апошнія 10 дзён знаходзіўся ў карцары без доступу да пітной вады і без асабістых рэчаў, якія ў яго былі папярэдне канфіскаваныя.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" расцэньваюць гэтыя дзеянні як грубае парушэнне асноўных прынцыпаў нацыянальнага заканадаўства і міжнароднага права. Нечалавечыя ўмовы ўтрымання Паўла Севярынца і іншых вязняў наўпрост парушаюць Артыкул 23 Канстытуцыі РБ: "Асоба, узятая пад варту, мае права на судовую праверку законнасці яе затрымання або арышту. Ніхто не павінен падвяргацца катаванням, жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму да яго годнасці абыходжанню ці пакаранню", а таксама арт. 5 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, арт. 7 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, Канвенцыю ААН супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных альбо прыніжальных годнасць відаў абыходжання і пакарання, прынятых Рэспублікай Беларусь, як краінай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Патрабуем спыніць пераслед грамадскага дзеяча і пісьменніка Паўла Севярынца, вызваліць яго з-пад варты і зняць несправядлівыя абвінавачванні.

Мы заклікаем улады краіны неадкладна ініцыяваць службовае расследаванне ў дачыненні да супрацоўнікаў Ізалятара часовага ўтрымання ГУУС Мінгарвыканкама, якія дапусцілі злоўжыванні сваімі паўнамоцтвамі, і найстражэйшым чынам пакараць вінаватых.

**Рада МГА ЗБС "Бацькаўшчына"**
**Рада ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**



# КВЕТКІ ДЛЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА

У дзень народзінаў Васіля Быкава літаратары і грамадскія дзеячы традыцыйна сабраліся на Усходніх могілках, каб ушанаваць памяць Васіля Быкава.

Паклацсі кветкі Васілю Уладзіміравічу прыйшлі кіраўніцтва і супрацоўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Анатоль Івашчанка, Сюзанна Паўкштэла, Ціхан Чарнякевіч, кіраўніцтва МГА ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская, супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Вольга Гулева, Наталля Адамовіч.

lit-bel.org

# НАЗВАНЫ ЎЛАДАЛЬНІК ПРЭМІІ ЗА НАЙЛЕПШУЮ БЕЛАРУСКАМОЎНУЮ КНІГУ ПАЭЗІІ

Стаў вядомы ўладальнік прэміі імя Наталлі Арсенневай за найлепшую беларускамоўную кнігу паэзіі 2019 года. Гэта – паэт Андрэй Хадановіч, аўтар кнігі "Школа травы". Ён атрымаў 4000 рублёў.



Прэмію заснавалі Беларускі ПЭН-цэнтр, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюз беларускіх пісьменнікаў. Сёлета на яе таксама прэтэндавалі кнігі Данута Бічэль-Загнетавай "Гускі вяртаюцца" і Вольгі Гапеевай "Чорныя макі".

euroradio.fm

# КУЛЬТУРА Ў ЗАКЛАДНІКАХ: ПАТРАБУЕМ ВЫЗВАЛЕННЯ ВІКТАРА І ЭДУАРДА БАБАРЫКАЎ І ЗНЯЦЦЯ ПЕРАШКОД ДЛЯ КУЛЬТУРНЫХ ПРАЕКТАЎ

Культурніцкая супольнасць Беларусі рашуча пратэстуе супраць палітычна матываванага пераследу дзеячаў культуры і супраць іншых дзеянняў беларускіх улад, якія блакуюць існаванне важных культурных і грамадскіх ініцыятыў.

Падчас правядзення передвыбарчай кампаніі затрыманыя мецэнат, філантроп і грамадскі дзеяч, экс-старшыня кіраўніцтва "Белгазпрамбанка" Віктар Бабарыка і ягоны сын, кіраўнік платформаў Ulej і MolaMola, менеджар культуры Эдуард Бабарыка. Праваабарончая супольнасць Беларусі прызнала Эдуарда і Віктара Бабарыкаў палітвязнямі. Былі знятыя з паказу і далучаныя да крымінальнай справы супраць "Белгазпрамбанка" творы з карпаратыўнай калекцыі банка, паралізаваная дзейнасць краўдфандынгавых пляцовак Ulej і MolaMola.

Дзякуючы ініцыятыве Віктара Бабарыкі і падтрымцы "Белгазпрамбанка" за апошняе дзесяцігоддзе былі рэалізаваныя наступныя культурныя праекты:

- Міжнародны форум тэатральнага мастацтва "ТэАрт" (першапачаткова – Тэатральны тыдзень з "Белгазпрамбанкам", 2010 – 2019),
- выстава "Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі", прымеркаваная да 75-гадовага юбілею Нацыянальнага мастацкага музею Беларусі (2014),
- праект "Восеньскі салон з «Белгазпрамбанкам»" (2015 – 2019), пакліканы прадставіць творы маладых беларускіх мастакоў, якія працуюць у розных відах і тэхніках выяўленчага мастацтва (жывапіс, графіка, фатаграфія, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і інсталяцыя),
- быў створаны і актыўна функцыянуе культурніцкі хаб ОК16 (2017 – сёння).

У 2018 годзе "Белгазпрамбанкам" было прафінансаванае выданне 15 000 асобнікаў пяцітомніка Святланы Алексіевіч у перакладзе на беларускую мову для перадачы ў дар бібліятэкам Беларусі.

У 2015 годзе Віктар Бабарыка атрымаў ганаровае званне "Мецэнат культуры Беларусі" па выніках 2014 года. Адна з найбольш гучных яго ініцыятыў – стварэнне карпаратыўнай калекцыі "Белгазпрамбанка".

Карпаратыўная калекцыя "Белгазпрамбанка" – збор твораў мастацтва, які фарміруецца ў межах рэалізацыі нацыянальнага гісторыка-культурнага праекта "Арт-Беларусь" і налічвае сёння больш за 150 артэфактаў – карціны, скульптуры, кнігі. Ядро калекцыі складаюць творы мастакоў Парыжскай школы, якія нарадзіліся ў Беларусі: Марка Шагала, Хаіма Суціна, Шрагі Царфіна, Пінхуса Крэменя, Міхаіла Кікоіна, Восіпа Любіча, Восіпа Цадкіна. 35 экспанатаў збору ўключаныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Значная частка калекцыі з 2017 году экспанавалася ў галерэі "Арт-Беларусь", якая месціцца ў Палацы мастацтваў і да апошніх дзён была даступная для ўсіх наведнікаў. Паводле інфармацыі дзяржаўных СМІ, "паўтары сотні карцін коштам 20 мільёнаў даляраў далучаныя да крымінальнай справы", звязанай з супрацоўнікамі "Белгазпрамбанку". Мастацтвазнаўцы называюць гэта рэйдарскім захопам. На сёння лёс і месцазнаходжанне калекцыі невядомыя.

У чэрвені 2020 года заблакаваныя рахункі краўдфандынгавых і фандрайзінгавых пляцовак Ulej і MolaMola, якія плённа працавалі там, дзе не спраўляліся са сваімі абавязкамі міністэрства культуры (а таксама адукацыі, інфармацыі, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння). Цягам пяці гадоў праз партал ulej.by рэалізаваўся цэлы шэраг праектаў, сярод якіх 211 было звязана з выданнем кніг для дзяцей і дарослых на рускай і беларускай мовах, 82 – з пастаноўкай тэатральных і кінаспектакляў, здымкамі дакументальных і кароткаметражных гульнявых фільмаў, 77 – з выданнем дэбютных музычных альбомаў і кліпаў ужо вядомых выканаўцаў; 92 праекты былі рэалізаваныя ў сферы медыя (блогі, публіцыстыка, анлайн-выданні), 191 ініцыятыва была звязаная з сацыяльнай сферай (падтрымка бальніц, дапамога жывёлам, іншыя значныя для грамадства праекты); 126 праектаў мелі дачыненне да дызайну (адзенне, аксесуары, крэатыўныя прадукты), 88 бізнес-праектаў пачыналі сваё існаванне менавіта праз краўдфандынг.

У сітуацыі, калі дзяржаўная палітыка ў сферы культуры арыентаваная пераважна на падтрымку лаяльных уладзе творцаў, за апошнія гады Віктар і Эдуард Бабарыкі стварылі сапраўдную экасістэму для існавання беларускай культуры.

Мы патрабуем спынення палітычна матываванага пераследу і вызвалення Віктара і Эдуарда Бабарыкаў, а таксама "вызвалення" іх культурных праектаў.

**РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр"**
**МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**
**ГКК "Будзьма Беларусамі"**
**Цэнтр візуальных і выканаўчых мастацтваў "АРТ Карпарэйшн"**
**Міжнародны форум "ТЭАРТ"**
**Арт Сядзіба**
**Асацыяцыя "Belfilm"**
**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**
**Кніжная серыя "Амерыканка"**
**Перакладчыцкая майстэрня**
**Лятучы ўніверсітэт**
**Еўрапейскі каледж Liberal Arts у Беларусі**
**Цэнтр культуры VZAP**
**Кросс-ценностная антиплатформа**
**Press Club Belarus**
**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны"**
**Выдавецтва "Янушкевіч"**
**Выдавецтва "Логвінаў"**
**Выдавецкая ініцыятыва "Пфляўмбаўм"**

Заява адкрытая да падпісання іншымі арганізацыямі




21.06. Нью-Ёрк
Каля штаб-кватэры ААН




20.06. Маямі

27.06. Прага
Акцыя сабрала некалькі сотняў дэманстрантаў







Лос-Анджэлес

21.06. Варшава
Сотні чалавек ля беларускай амбасады







20.06. Берлін



20.06. Тэль-Авіў





19.06. Вільня



Браціслава



19.06. Кіеў
Каля беларускай амбасады




21.06. Масква
Каля беларускай амбасады




27.06. Бостан

Каля сотні чалавек прайшлі маршам да помніка Касцюшку



28.06. Філадэльфія



Варшава

У маршы ўзялі ўдзел 3000 чалавек






27.06. Кіеў

Больш за сто чалавек на Майдане Незалежнасці



27.06. Санкт-Пецярбург




Беласток

Больш за 200 чалавек узялі ўдзел у акцыі каля беларускага консульства



04.07. Турцыя




03.07. Жэнева

Паводле budzma.by, svaboda.org, nashaniva.by, novychas.by, euroradio.fm, racyja.com, belsat.eu, facebook.com



Кракаў
Сотні дэманстрантаў узялі ўдзел у акцыі



Мілан



Сафія
Каля беларускай амбасады



Вена
Каля беларускай амбасады



Познань
Каля сотні пратэстоўцаў



04.07. Вашынгтон
Каля беларускай амбасады



03.07. Рым



03.07. Дзюсельдорф



03.07. Вільня


03.07. Мюнхен


05.07. Парыж
Каля Луўра


Шчэцін

in memoriam

# ПАМЯЦІ ІРЫНЫ МОЗЫЛЕВАЙ

27 траўня, пасля працяглай хваробы, пайшла з жыцця беларуска-амерыканская оперная спявачка Ірына Мозылева.

Ірына нарадзілася 31 траўня 1968 года ў Мёрах Віцебскай вобласці. Ейны талент спецыялісты разгледзелі, калі ёй было 6 гадоў. Пасля спецыяльнай музычнай школы-інтэрната і каледжа Ірына трапіла ў Маскоўскую кансерваторыю. Адтуль яна адправіла касету са сваімі спевамі ў школу Джуліярда ў Нью-Ёрку, і яе запрасілі вучыцца ў Амерыку. Працягвала вучобу ў прэстыжным Інстытуце музыкі Кёрціса ў Філадэльфіі, атрымаўшы там поўную стыпендыю.

У 1997 годзе Ірына пераехала ў Нью-Ёрк, дзе адразу ўсталявала кантакты з беларускай дыяспарай. Нягледзячы на шчыльны расклад (яна ўжо выступала ў Карнэгі-Холе ды Лінкальн-Цэнтры),



заўсёды знаходзіла час, каб паспяваць на Сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі, святкаваннях 25 сакавіка ды іншых беларускіх імпрэзах у Нью-Ёрку і Нью-Джэрсі. Многія дасюль памятаюць "Мой родны кут" і "Зорку Венеру" ў ейным выкананні. Ірына таксама займалася выкладчыцкай дзейнасцю, кіравала царкоўным хорам.

У 2016 годзе, страціўшы здольнасць спяваць з-за радыкальнай хірургічнай аперацыі, Ірына перанакіравала сваю творчасць на дызайн адзення.

Чатыры дні яна не дажыла да свайго 52-годдзя. У Ірыны застаўся муж Ар'я і дачка Лія, якія жывуць у Бікане, штат Нью-Ёрк, а таксама бацька Мікалай і сястра Тамара, якія жывуць у Беларусі. Мы не часта бачыліся з Ірынай, бо жылі ў розных краінах, а пасля ў розных штатах, але ўсе сустрэчы былі незабывальныя. Давялося панаёміцца й з ейнай маці Ліяй (мы сустракаліся ў Мінску). Ірына назаўсёды застанецца ў маім сэрцы. Яна была чалавекам вялікай душы і сваім талентам праслявіла родную Беларусь. Вечная памяць!

**Вячаслаў Бортнік**

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім і сябрам спадарыні Ірыны. Мы смуткуем разам з вамі.**

# ПАМЯЦІ ВАЛЯНЦІНЫ ДАРАШЧОНАК

Адышла ў лепшы свет Валянціна Іванаўна Дарашчонак, старшыня беларускага таварыства "Спатканне" у Екабпілсе, удзельніца тамтэйшага вакальнага ансамбля "Завіруха". Ёй было 68 гадоў.

Валянціна Іванаўна была добрым і чулым Чалавекам, патрыётам сваёй Радзімы – Беларусі. Шануючы традыцыі свайго народа, праводзіла разам з сябрамі "Спаткання" яскравыя імпрэзы, на якія запрашала ў госці нас, сяброў беларускага таварыства "Уздым". Я з цеплынёй прыгадваю таксама мае творчыя сустрэчы ў Екабпілсе, якія рыхтавала і вяла яна. Мы ж у сваю чаргу былі рады бачыць і чуць Валянціну Іванаўну на нашых мерапрыемствах у Даўгаўпілсе, сустракацца з ёй на святах у іншых гарадах... У мінулым годзе Валянціне Іванаўне была ўручана ўзнагарода – медаль "100 гадоў дыпламатычнай службе Беларусі".

Спачуванні родным і блізкім. Светлага ёй неба.

**Станіслаў Валодзька**

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні сваякам, блізкім, а таксама ўсім, хто ведаў спадарыню Валянціны Дарашчонак. Мы смуткуем разам з вамі.**






## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2020 года

**1 ліпеня**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, загінуў Уладзімір Хадыка, паэт.

**3 ліпеня**
- 80 гадоў таму, у 1940-м, нарадзіўся Роберт Тамушанскі, філолаг, грамадскі дзеяч у Вялікабрытаніі і Ватыкане. Памёр у 1996-м.

**5 ліпеня**
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Барыс Сачанка, пісьменнік.

**6 ліпеня**
- 35 гадоў таму, у 1985-м, памёр Пятро Сакол (сапр. Пётр Масальскі), паэт.

**10 ліпеня**
- 190 гадоў таму, у 1830-м, памёр Людвік Сабалеўскі, філолаг.
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Пётр Сергіевіч, мастак. Памёр у 1984-м.

**13 ліпеня**
- 105 гадоў таму, у 1915-м, загінуў Лявон Гмырак (сапр. Мечыслаў Бабровіч), празаік.
- 30 гадоў таму, у 1990-м, памёр Янка Багдановіч, пісьменнік.

**14 ліпеня**
- 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Пятро Сакол, паэт. Памёр у 1985-м.

**15 ліпеня**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Уладзімір Дубоўка, пісьменнік. Памёр у 1976-м.

**16 ліпеня**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памерла Яніна Каханоўская, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**19 ліпеня**
- 165 гадоў таму, у 1855-м, памёр Тамаш Зан, прыродазнавец, літаратар.

**21 ліпеня**
- 160 гадоў таму, у 1860-м, нарадзіўся Антон Камінскі, мастак. Памёр у 1933-м.

**23 ліпеня**
- 125 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Міхаіл Сазыка, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Памёр у 1949-м.
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Алесь Ставер, паэт, празаік, драматург.

**24 ліпеня**
- 200 гадоў таму, у 1820-м, нарадзіўся Люцыян Крашэўскі, мастак, фатограф. Памёр у 1892-м.

**25 ліпеня**
- 75 гадоў таму, у 1945-м, расстраляны Станіслаў Грынкевіч, грамадска-палітычны дзеяч, літаратар.

**27 ліпеня**
- 110 гадоў таму, у 1910-м, памёр Уладзіслаў Дыбоўскі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., заолаг, батанік, палеантолаг, мінеролаг, фальклярыст.
- 30 гадоў таму, у 1990-м, Вярхоўны Савет прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

**28 ліпеня**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, памёр Алесь Гарун (сапр. Аляксандр Прушынскі), паэт.

**29 ліпеня**
- 60 гадоў таму, у 1960-м, памёр Тодар (Хведар) Данілюк, адзін са стваральнікаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (217), чэрвень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27